**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск, — 5.01, 21.11, 16.10;
Віцебск — 4.45, 21.07, 16.22;
Магілёў — 4.50, 21.00, 16.10;
Гомель — 4.53, 20.52, 15.59;
Гродна — 5.16, 21.27, 16.11;
Брэст — 5.25, 21.18, 15.53.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 16 мая.

**ІМЯНІНЫ:**
Іова, Міхея, Дзяніса;
Пятра, Мікалая.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

19 МАЯ 1992 г.
аўторак, № 97 (21875)




● цана 50 кап.


# РОЗГАЛАС

## ДЗЕ ПАДЗЕЦЦА АД «СЫТАГА» ЖЫЦЦЯ?

У панядзелак з раніцы ў Мінску пачаліся перабоі ў рабоце грамадскага транспарту: каля двух дзесяткаў тралейбусаў 2-га, 5-га, 18-га, 43-га і іншых маршрутаў доўгім хвастом выцягнуліся ад плошчы Незалежнасці амаль да вуліцы Маскоўскай. Пасажыры нерваваліся, не ведаючы, што здарылася. Нечакана ўсплыла і фраза: «Зноў забастоўка...» Але ў той дзень гэтага не здарылася — прычынай затрымкі руху тралейбусаў сталі проста тэхнічныя непаладкі.

Між тым, як аказалася, чуткі аб забастоўцы аказаліся небеспадстаўнымі. Па тых звестках, якія мы атрымалі, у аўторак у беларускай сталіцы мае адбыцца забастоўка вадзіцеляў гарадскога аўтатранспарту з эканамічнымі патрабаваннямі. А ва ўпраўленні «Мінскпасажыраўтатранс» усё ціха. Там заявілі, што ні пра якую акцыю нічога не ведаюць...

## ДЗЕЦІ—ГЭТА САМАЕ ДАРАГОЕ, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ

**МІНСК. (Кар. БелаПАН Віктар ФЕДАРОВІЧ). З мая бацькам, дзеці якіх наведваюць райвыканкомаўскія дашкольныя ўстановы, прыйдзецца плаціць за сваіх дзетак замест 80 рублёў па 240. За апошні месяц гэта ўжо другое павышэнне цэн «на дзяцей».**

## РЭМБА ПА-АРШАНСКУ

**ОРША. (Н. Пятроўская, кар. БелаПАН). Нядаўна на тэрыторыі адной з воінскіх часцей горада Оршы з'явілася група людзей у форме дэсантнікаў. Нейтралізаваўшы ахову, яны захапілі склады з НЗ, загрузілі прадуктамі харчавання некалькі машын і накіраваліся ў бок Расіі. Праз некаторы час частка машын была спынена нарадам міліцыі. Па справе вядзецца следства.**

## КУДЫ ЦЯПЕР ПАЙСЦІ САЛДАТУ?..

МІНСК. (**Кар. БелаПАН Алена АНКУДА**). Бадай, самая шматлікая армія жабракоў — былыя ваенныя. Сёння ў Беларусі больш за 30 тысяч сем'яў, «звольненых» у запас разам з кармільцамі. Хто дапаможа такой колькасці людзей?

Фонд сацыяльнай абароны ваеннаслужачых сумесна з фондам «Дзецям Чарнобыля» прапануюць тапельцам выратавальную «саломінку». У бліжэйшы час плануецца стварэнне навуковых цэнтраў пры долевым удзеле прамысловых прадпрыемстваў. У гэтых цэнтрах афіцэры змогуць атрымаць новую спецыяльнасць і гарантавана ўладкавацца на работу на прадпрыемстве-спонсары.

А бяздомным — дапамогуць пабудаваць жыллё. Разглядаюцца варыянты атрымання зямлі пад будаўніцтва, частковай аплаты выдаткаў дзяржавай, набыццё будматэрыялаў па нізкіх цэнах.

## «Стоп—СНІД» зоймецца асветай

**Як застрахавацца ад чумы XX стагоддзя — СНІДу? — Знайсці адказ на гэтае пытанне дапаможа новая грамадская дабрачынная арганізацыя «Стоп — СНІД», у якую ўвайшлі супрацоўнікі «Беларусьфільма», журналісты. Асноўная мэта, як сказана ў загалоўку—асветніцкая. Рэспубліканскі цэнтр па прафілактыцы СНІДу займаецца непасрэдна ўрачэбнай дзейнасцю, «Стоп — СНІД» жа — антыснідаўскімі відэаролікамі, лекторыямі і г. д.**

**На тэрыторыі Беларусі памёр другі хворы на СНІД. Колькасць ВІЧ-інфіцыраваных расце...**

## Калгасы пагражаюць забастоўкай

**БАРАНАВІЧЫ. Стачкомы сёння растуць, як грыбы, — на прамысловых прадпрыемствах, у аўтамабільных парках, медыцынскіх установах, школах. Каб быць упоравень з часам, сваё важкае слова сказалі і працаўнікі сельскай гаспадаркі. У Баранавіцкім раёне для гэтага аб'ядналіся старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў. Ураду накіраваны ультыматум, у якім выказваецца незадаволенасць цэнавай палітыкай дзяржавы ў адносінах да вёскі. Калі ў бліжэйшы час не будзе зроблена ніякіх паслабленняў, стачком мае намер аб'явіць забастоўку — будуць спынены пастаўкі ў дзяржаўны фонд мяса, малака, іншай сельскагаспадарчай прадукцыі.**

**Адказу з плошчы Незалежнасці пакуль што не было.**

# ПАСЛЯ ТАШКЕНТА

### ШТО ДУМАЮЦЬ АБ ВЫНІКАХ СУСТРЭЧЫ Ў СТАЛІЦЫ УЗБЕКІСТАНА КІРАЎНІКІ БЕЛАРУСІ

**Хто толькі ні прадказваў напярэдадні ташкенцкай сустрэчы «ў вярхах» хуткага скanання СНД. Нават Міхаіл Гарбачоў, выступаючы ў канцы мінулага тыдня перад амерыканскімі кангрэсменамі, палічыў патрэбным назваць ідэю Садружнасці нежыццяздольнай і напрарочыў краінам СНД хуткае аб'яднанне на новай аснове.**

**Песімістычныя прагнозы, аднак, не спраўдзіліся. І хоць да поўнага ўзаемаразумення ў Ташкенце было далёка, Садружнасць выстаяла і нават, на думку некаторых удзельнікаў сустрэчы, умацавалася. Прынамсі, Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч у час прэс-канферэнцыі, што адбылася на наступны дзень пасля іх вяртання ў Мінск, не хавалі свайго задавальнення і дакаралі журналістаў за заўчасныя памінкі па СНД.**

Аптымізм нашых лідэраў можа здацца дзіўным, калі ўлічыць, што да значнай колькасці пагадненняў, падпісаных ва ўзбекскай сталіцы, Беларусь не далучылася. Не стаіць подпіс Шушкевіча і пад галоўным дакументам, які абмяркоўваўся ў Ташкенце — Дагаворам аб калектыўнай бяспецы. Аднак за знешняй парадаксальнасцю гэтага, на нашу думку, стаіць зусім апраўданая стройная логіка паводзін беларускай дэлегацыі.

Але аб усім па парадку. Якімі былі галоўныя тэмы ташкенцкай сустрэчы і якую пазіцыю ў абмеркаванні гэтых праблем заняла Беларусь?

### НОВЫ ВАЕННЫ БЛОК

У выпадку магчымай агрэсіі Расія, Арменія, Казахстан, а таксама краіны Сярэдняй Азіі (за выключэннем Кыргызстана) абавязаліся стаць на абарону адна адной. Беларусь не далучылася да гэтага блоку. На думку Станіслава Шушкевіча, краіне, якая заявіла аб сваім імкненні быць бяз'ядзернай і нейтральнай, няма для чаго ўступаць у ваенныя саюзы, — гэта супярэчыла б Дэкларацыі аб суверэнітэце, якой нададзена сіла канстытуцыйнага закона. Зрэшты, Старшыня Вярхоўнага Савета не выключае, што парламент або Прэзідыум могуць вярнуцца да гэтага пытання і даць адпаведныя даручэнні. Па ўласнай ініцыятыве Станіслаў Шушкевіч гэту тэму паднімаць на сесіі не збіраецца. Яна будзе абмеркавана на пасяджэнні Прэзідыума 19 мая.

Зусім відавочна: патрэба ў ваенным блоку з Расіяй у еўрапейскіх краін СНД, — у адрозненне ад сярэднеазіяцкіх, -- мінімальная. Для Беларусі новыя абавязацельствы ў абаронным саюзе хутчэй за ўсё маглі б абярнуцца неапраўданымі выдаткамі на пагашэнне магчымых канфліктаў далёка за сваімі межамі. Узнікненне падобнай агрэсіі ў дачыненні да Беларусі, якая не прад'яўляе ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў і не мае такіх прэтэнзій ад іх, — больш чым малаверагоднае.

### «БЛАКІТНЫЯ КАСКІ» МАШТАБУ СНД

Яшчэ адно пагадненне, пад якім няма подпісу лідэра нашай дзяржавы, — «Аб статусе груп ваенных назіральнікаў і калектыўных сіл па падтрыманню міру ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў». Адказваючы на маё пытанне аб прычынах гэтага, Станіслаў Шушкевіч заўважыў:

— На Беларусі, якая загубіла нямала сваіх сыноў у Афганістане і ў іншых месцах, выконваючы так званы «інтэрнацыянальны абавязак», думаю, ніхто не падтрымаў бы нас, калі б паставілі свой подпіс пад гэтым дакументам. Акрамя таго, мы не хацелі б ствараць такія сілы не ў поўнай адпаведнасці з прынцыпамі ААН, якая мае свае «блакітныя каскі». У любым выпадку мы будзем дабівацца вырашэння любых канфліктаў палітычнымі метадамі. Нават калі справа дойдзе да фарміравання такіх сіл, мы — за выключна добраахвотны прынцып іх стварэння. На гэта павінны быць згодны і вайскоўцы, і дзяржава.

Пры абмеркаванні іншых вайсковых праблем пазіцыя Беларусі таксама была надзвычай стрыманай: наша дэлегацыя не ўдзельнічала ў падпісанні дагавораў аб фінансаванні пагранічных войск і аб'яднаных узброеных сіл, аб хімічнай зброі. Выклікана гэта, як аказалася, тым, што рэспубліка ўжо выдаткавала са свайго бюджэту сродкі на ўласныя абаронныя мэты (8 мільярдаў на армію і 1 мільярд — на пагранічнікаў). Што ж датычыць хімічнай зброі, то дзіўным было б, калі б Беларусь, не маючы яе на сваёй тэрыторыі, траціла грошы на яе знішчэнне недзе за сваімі межамі.

### ПРА ТЫХ, ХТО ЛЮБІЎ ЖЫЦЬ У ДОЎГ

Важнейшым дакументам, падпісаным у Ташкенце, Вячаслаў Кебіч лічыць пагадненне аб узаемных разліках паміж прадпрыемствамі. Для тых, хто прывык жыць у доўг, настаюць няпростыя часы: лідэры ўрадаў дамовіліся, што ў далейшым дзяржаўныя прадпрыемствы будуць адгружаць прадукцыю толькі пасля папярэдняй аплаты. Гэта выклікана тым, што краіны СНД задаўжалі вялізныя сумы адна адной. Найбольшы даўжнік — Расія. Яе доўг Беларусі — 25 мільярдаў (супраць 7 мільярдаў, якія павінны ёй мы). Напэўна, менавіта гэтым было выклікана настойлівае нежаданне расійскай дэлегацыі падпісваць такі дакумент, — эканамічнае становішча ў Расіі і без таго складанае. І ўсё ж згода была дасягнута. Наш прэм'ер лічыць, што гэта дасць магчымасць эканоміцы рэспублікі нармальна закончыць год.

Прынятае рашэнне, безумоўна, далёка не рыначнае: зацяжка з плацяжамі будзе стрымліваць рух тавараў, матэрыяльных рэсурсаў. Але гэта, на думку кіраўнікоў дзяржавы, адзінае на сённяшні дзень выйсце.

### АБ АГУЛЬНЫМ ТЭЛЕКАНАЛЕ

Лёс тэлекампаніі «Астанкіна» не такі бясхмарны, як здавалася да апошняга часу. Дакумент аб агульным тэлеканале не падпісаны з-за прынцыповай нязгоды з яго палажэннямі шэрагу дэлегацый, у тым ліку і нашай.

— Радыё «Свабода» вядзе перадачы на мовах амаль усіх народаў былога Савецкага Саюза, — заўважыў Станіслаў Шушкевіч. — А ў нас на якой мове вядзецца вяшчанне з Масквы для краін СНД? Дык якая структура нам патрэбна: тая, што будзе нас русіфіцыраваць ці інфармаваць? Таму, на маю думку, стварэнне агульнага канала на базе старых структур, старых прынцыпаў — немагчымае.

### АБ КААРДЫНАЦЫЙНЫМ ЦЭНТРЫ СНД

Удзельнікі сустрэчы ў Ташкенце сышліся на тым, што Каардынацыйны цэнтр і яго кіраўнік І. Каратчэня папрацавалі надзвычай эфектыўна.

— Гэта менавіта тое месца, дзе І. Каратчэня можа і павінен працаваць — што б пра яго ні гаварылі і ні пісалі, — заўважыў В. Кебіч.

Мяркуецца, што ў далейшым роля Мінска як горада, дзе размешчаны каардынацыйныя органы СНД, будзе ўзрастаць. Менавіта тут збяруцца 26 чэрвеня лідэры ўрадаў. У далейшым, магчыма, сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Мінску стануць рэгулярнымі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ГОЛАД—НЕ ЦЁТКА

ГОМЕЛЬ. (**У. Пернікаў**). Хочаш выжыць — бяры зямлю. Менавіта такі дэвіз сёння ў многіх гараджан вобласці, якія аб'ядналіся ў 450 садаводчых кааператываў і апрацоўваюць 3.871 гектар зямлі.

Сёлета працэс раздачы зямлі найбольш актыўна ішоў у Гомельскім раёне, дзе яе атрымалі далёка не ўсе жадаючыя з абласнога цэнтра. Таму аблвыканком прыняў пастанову аб выдзяленні агародаў для іх у Рэчыцкім, Добрушскім і Буда-Кашалёўскім раёнах. Людзі дадаткова асвойваюць тут яшчэ 2.085 гектараў. Работа на ўчастках кіпіць як у выхадныя дні, так і ў будзённыя. Відаць, гараджане ўспомнілі прымаўку: «Голад — не цётка».




**Сродкі масавай інфармацыі працягваюць каменціраваць вынікі сустрэчы ў вярхах у Ташкенце.**

**Як адзначыў у інтэрв'ю карэспандэнту праграмы «Радыёфакт» Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, «саюз СНД, безумоўна, стаў больш трывалым». Далей ён сказаў: «Пагадненне па хімічных узбраеннях мы не падпісвалі, таму што ў нас гэтых узбраенняў няма. Мы не маем намеру іх ствараць. У далейшым мы будзем вырашаць пытанні аб сумеснай вонкавай граніцы СНД на падставе двухбаковых пагадненняў».**

***

З 19 па 21 мая ў Мінску пройдзе нарада прадстаўнікоў Савета Еўропы (Камітэт па сувязях з краінамі, якія не з'яўляюцца членамі Савета Еўропы) і прадстаўнікоў краін — членаў СНД.

Праграмай прадугледжаны сустрэчы з кіраўнікамі Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі, розных канфесій і нацыянальных меншасцей. У рамках нарады адбудуцца сустрэчы з дэлегацыямі парламентаў СНД.

***

**У Нідэрланды для ўдзелу ў заснаванні фонду дапамогі дзецям Расіі і Беларусі, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прыбылі жонка прэзідэнта Расіі Н. Ельцына і жонка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь І. Шушкевіч.**

**Н. Ельцына і І. Шушкевіч сустрэліся з прадстаўнікамі дзелавых колаў і сродкаў масавай інфармацыі Нідэрландаў, зрабілі экскурсію па Амстэрдаму, наведалі выставу малюнкаў дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.**

***

Канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю ленінградскага вучонага Г. Шычко, прайшла ў Мінску. Ён вядомы тым, што стварыў... арыгінальны метад збаўлення ад алкагольнай залежнасці. Цвярэзнікі з Харкава, Екацярынбурга, Кобрына, Масквы, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў абмеркавалі актуальныя праблемы свайго руху, заклікалі да барацьбы з расійскім урадам, які, на іх погляд, адмяніўшы дзяржаўную манаполію на продаж спіртнога, пачаў татальнае спойванне насельніцтва.

***

**Як стала вядома «Радыёфакту» з кампетэнтных крыніц, на 19 мая назначана двухгадзінная папераджальная забастоўка вадзіцеляў мінскіх аўтобусаў. Асноўнае іх патрабаванне — павышэнне заработнай платы.**

***

Культура і рынак — тэма навукова-практычнай канферэнцыі, якая 18—19 мая праходзіць у Беларускім інстытуце праблем культуры. Яе ўдзельнікі паспрабуюць сфармуляваць эканамічнае абгрунтаванне існавання і развіцця культуры, спыняцца на юрыдычна-прававых пытаннях камерцыйнага прадпрымальніцтва ў галіне культуры.

***

**18 мая грамадскасць свету адзначыла Міжнародны дзень музеяў. Прыемна, што напярэдадні прынята рашэнне аб вяртанні бацьку гарадоў Беларусі — Полацку будынка былога іезуіцкага калегіума, дзе доўгія гады размяшчалася ваенная ўстанова.**

**Усяго да 2000 года ў горадзе плануецца адкрыць каля 20-ці музеяў.**

***

Платныя роды сталі рэальнасцю ў 7-й мінскай гарадской бальніцы. Аказанне гэтых паслуг, а таксама пяцідзённае знаходжанне ў індывідуальнай палаце каштуе 8 з палавінай тысяч рублёў.

***

**У Латвіі з мая выпушчаны ў абарачэнне латвійскі рубель (не блытаць з латам). Яго абменны курс да расійскага пакуль што 1:1.**

***

Аддрукаваная за марамі крона пад завыванне сірэны дастаўлена з порта ў банк Эстоніі. І тут рубель дажывае апошнія тыдні.

***

**Зноў прозвішчы кіраўнікоў з Іванаўскага раёна, як кажуць, не сыходзяць з языка яго жыхароў. Сталі вядомыя вынікі пракурорскай праверкі дзейнасці малога прадпрыемства «Інталс», якое толькі за два месяцы — у студзені—лютым г. г. паклала на свой асабовы рахунак каля паўтара мільёна рублёў ад пасрэдніцкага продажу прадукцыі тутэйшага саладзільнага завода ў краіны Прыбалтыкі. Доступ да соладу і яго выгадны перапродаж забяспечвалі дырэктар завода Зыбянок і старшыня райвыканкома Флар'яновіч, паколькі іх жонкі з'яўляюцца афіцыяльнымі заснавальнікамі «Інталса»...**

**Пачынаючы з сённяшняга нумара, інфармацыйныя выпускі «РАДЫЁФАКТА» будуць з'яўляцца ў «Звяздзе» рэгулярна.**

**Інтэрв'ю са стваральнікамі праграмы «РАДЫЁФАКТ» чытайце на трэцяй старонцы.**




# ДЗЕЛЯ ВЫРАТАВАННЯ ДЗЯЦЕЙ

**Амаль 7 мільёнаў рублёў ахвяраванняў сабрана ў час тэлемарафона «ВЫРАТУЕМ ДЗЯЦЕЙ», які ў нядзелю правёў Беларускі дзіцячы фонд. Сярод яго спонсараў — многія міністэрствы Беларусі, шматлікія грамадскія арганізацыі, беларускія прадпрыемствы, творчыя саюзы, прадстаўнікі замежжа. Адразу пасля тэлемарафона, які выклікаў у свой адрас мноства званкоў, адбылося пасяджэнне бюро прэзідыума дзіцячага фонду. Тэрмінова створана камісія, якая будзе разглядаць звароты грамадзян, што паступілі ў час тэлемарафона. Ахвяраванні на рахунак № 707801 працягваюць паступаць.**

**НА ЗДЫМКАХ: вядучая дабрачыннага канцэрта майстроў мастацтваў Зінаіда БАНДАРЭНКА і мінскі святар айцец ГЕОРГІЙ; сярод юных гледачоў прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір ЛІПСКІ.**



**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## ЛЕНІНА ЗНОЎ «АДЛІЧВАЮЦЬ»—ЦЯПЕР З БДУ

Вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна прыняў рашэнне хадайнічаць у высокіх рэспубліканскіх інстанцыях аб зняцці імя правадыра сусветнага пралетарыяту з назвы буйнейшай навучальнай і навуковай установы Беларусі. Як ўспрынялі гэту навіну ва універсітэце?

Са ста апытаных 72 студэнты падтрымліваюць хадайніцтва вучонага савета, 11 — супраць, для 17-ці ўсё гэта не мае значэння.

**БелаПАН.**



# Агонь, запалены ля Гроба Гасподня, сёння сустрэнуць у Беларусі

**Стала добрай традыцыяй у цёплыя майскія дні адзначаць Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур у Расіі, на Украіне і Беларусі. Прымеркаванае да 24 мая — Дня святых роўнаапостальскіх першанастаўнікаў славянскіх Кірылы і Мяфодзія, яно ўпершыню адбылося ў Мурманску (1986 год), затым святочную эстафету прымалі Волагда (1987 год), Ноўгарад (1988 год), Кіеў (1989 год), Мінск (1990 год), Смаленск (1991 год). Сёлета гэтая эстафета перададзена сталіцы Расіі Маскве, дзе з 24 па 28 мая адбудуцца асноўныя ўрачыстасці.**

Ініцыятары Свята — Міжнародны фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур разам з Рускай Праваслаўнай царквой, шэрагам грамадскіх арганізацый і замежным славянствам плануюць цікавыя мерапрыемствы як у гонар Кірылы і Мяфодзія, так і ў сувязі з 600-годдзем з дня смерці прападобнага Сергія Раданежскага.

Дамінантай кангрэса ў рамках Свята будзе абмеркаванне актуальных праблем кансалідацыі ўсіх славян, захавання і росквіту славянскай культурна-гістарычнай спадчыны. У кангрэсе прымуць удзел царкоўныя і свецкія, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, вучоныя, літаратары, мастакі, гаспадарнікі, бізнесмены — дэлегаты з розных рэгіёнаў Расіі, Украіны і Беларусі, іншых рэспублік СНД, з Польшчы, Чэха-Славакіі, Балгарыі, Югаславіі, Грэцыі, Фінляндыі, Германіі, Японіі, Аўстраліі, ЗША, Канады, Аргенціны, Венесуэлы, Парагвая і іншых краін.

Упершыню ў гісторыі праведзення Свята на ўсходнеславянскіх землях усе ўрачыстасці будуць праходзіць пад знакам «Нязгаснай лампады славянскіх народаў», якая запалена ў Вялікую Суботу 25 красавіка, напярэдадні праваслаўнага Вялікадня, ад агню каля Гроба Гасподня ў Іерусаліме і праносіцца сёння па краінах Еўропы ў напрамку да Масквы. Асноўная ідэя гэтай акцыі — уваскрасіць бласлаўлёным агнём у свядомасці народаў шлях святых роўнаапостальскіх Кірылы і Мяфодзія (шлях Евангелля) ва ўсходнеславянскі свет, а таксама падкрэсліць неацэннае значэнне прападобнага Сергія Раданежскага для ўсіх хрысціян свету. У адпаведнасці з такой ідэяй маршрут «Нязгаснай лампады» пралягае да Масквы праз Турцыю, Грэцыю, Балгарыю, Югаславію, Венгрыю, Чэха-Славакію, Польшчу, Украіну і Беларусь.




У Беларусі «Нязгасная лампада» будзе сустрэта хрэсным ходам народа і духавенства 19 мая на мяжы Гомельскай і Чарнігаўскай абласцей. А 20 мая шлях свяшчэннага агню праляжа праз Гомель у Мінск на плошчу Незалежнасці, дзе яго будуць вітаць Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, прадстаўнікі беларускага ўрада, жыхары і госці беларускай сталіцы. Хрэсны ход з «Нязгаснай лампадай» пройдзе ад плошчы Незалежнасці па праспекце Скарыны да Кафедральнага сабора, ля якога адбудзецца ўрачысты малебен. Наступным днём Беларусь правядзе бласлаўлёны агонь да мяжы са Смаленскай вобласцю, дзе яго сустрэне Расія.

Напярэдадні і ў час знаходжання «Нязгаснай лампады» на беларускай зямлі ў гарадах і вёсках рэспублікі пройдуць урачыстыя мерапрыемствы, скіраваныя на ўмацаванне дружбы ў сям'і славянскіх народаў: навуковыя канферэнцыі, мастацкія і кніжныя выстаўкі, спецыяльныя ўрокі і конкурс на лепшае сачыненне аб роднай мове ў школах, сустрэчы з пісьменнікамі, навукоўцамі, дзеячамі культуры, тэматычныя канцэрты прафесіянальных і самадзейных творчых калектываў, малебны і іншае...

Можа, гэта і залішне сухі пералік мерапрыемстваў, якія адбудуцца ў Беларусі ў кантэксце Свята славянскага пісьменства і славянскіх культур, але ў душы вялікая надзея на тое, што чытач глыбока і эмацыянальна ўспрыме сэнс надыходзячых падзей. Асабліва ж — сэнс «Нязгаснай лампады», якая ўпершыню ў гісторыі хрысціянства азорыць свяшчэнным агнём нашу шматпакутную зямлю.

«Нязгасная лампада» завітае да нас напярэдадні 1000-годдзя Праваслаўнай Царквы ў Беларусі; ёсць нешта вельмі сімвалічнае ў тым, што юбілейны год праваслаўя ў нашай Айчыне пройдзе пад знакам СВЯШЧЭННАГА АГНЮ.

**Уладзімір ЛАМЕКА,**
**намеснік старшыні Беларускага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур.**

